**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 12 (885) 23 сакавіка 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



## Базавая арэндная велічыня ў Беларусі з 1 красавіка павялічыцца да Br15,2

**Базавая арэндная велічыня ў Беларусі з 1 красавіка павялічыцца да Br15,2. Гэта прадугледжана пастановай Савета Міністраў ад 7 сакавіка 2017 года нумар 182, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе ўрада.**

Цяпер базавая арэндная велічыня складае Br13,6.

Дакумент прыняты ў адпаведнасці з падпунктам 2.1 пункта 2 указа ад 29 сакавіка 2012 года нумар 150 "Аб некаторых пытаннях арэнды і бязвыплатнага карыстання маёмасцю" і ўступае ў сілу з 1 красавіка 2017 года.

Пастанова Савета Міністраў ад 17 сакавіка 2016 года нумар 208 "Аб устанаўленні памеру базавай арэнднай велічыні" прызнаецца страціўшай сілу.

Базавая арэндная велічыня прымяняецца ў розных арэндных платы пры арэндзе плошчаў, што знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці.

***БелТА.***



Фота uaua.info

Вясна ўжо яскрава нагадвае аб сабе!



ISSN 2077-8023



### Полацкі раён

## Тытунёвы "трэст" лопнуў

■ Станіслаў Раманчук.

**Нягледзячы на суровыя меры адказнасці, спробы нелегальна даставіць партыі цыгарэт у суседнія краіны ЕС толькі павялічваюцца.**

Адну з такіх арганізаваных груп змог арганізаваць жыхар Полацка, які кіраваў прыватнай фірмай па аказанні сервісных паслуг. Акрамя двух сваіх беспрацоўных землякоў ён прыцягнуў да кантрабанднай дзейнасці яшчэ шасцёра жыхароў Мёрскага раёна і двух вясковых мужыкоў з Верхнядзвінскага раёна, якія таксама афіцыйна нідзе не працавалі, але хацелі жыць заможна. Вось толькі спосаб для атрымання даходаў гэта група выбрала даволі экстрэмальны. Яна старанна вывучыла маршруты руху грузавых беларускіх цягнікоў у Латвію і там, дзе лакаматывы зніжаюць хуткасць руху, стала як каскадзёры заскочваць у вагоны з вуглём, дзе закопвала каробкі з цыгарэтамі. Далей пасля заканчэння гэтай аперацыі зламысніцы такім жа чынам пакідалі вагоны, дзе іх падбіралі на машынах партнёры. За мяжой на тэрыторыі Латвіі ў іх таксама былі свае кампаньёны. За паўтары гады дзейнасці такім чынам за граніцу было перапраўлена амаль 40 тысяч пачак цыгарэт айчыннай вытворчасці. Аднак кантрабандысты не ўлічылі, што супраць іх пачалі аперацыю паліцэйскія Латвійскай Рэспублікі ў цесным супрацоўніцтве са сваімі беларускімі калегамі. На нашай тэрыторыі падчас адной такой пераправы кантрабанды міліцыя затрымала з тытунём траіх удзельнікаў групы, а потым прыйшла і за астатнімі членамі групоўкі. За падобную дзейнасць на граніцы ўсе яны арыштаваныя, але на гэтым спробы незаконна перапраўляць тавары праз мытную граніцу Беларусі наўрад ці спыняцца з-за вялікіх звышпрыбыткаў.

### Лёзненскі раён

## Сцеражыся паводкі

■ Чэслаў Якубовіч.

**У нядаўнім мінулым зімы былі значна больш снежнымі, чым цяпер, а веснавой паводкі штогод чакалі з трывогай жыхары многіх населеных пунктаў.**

Сёлета снежнае покрыва было больш сціплае на Віцебшчыне, узровень веснавых вод – аптымальны, аднак у Лёзненскім раёне прыйшлося папарасіць прыйсці на дапамогу сапёраў МНС. Цёплае надвор'е і дажджы стварылі небяспеку для аўтамабільнага маста на рацэ Чарніца на трасе паміж вёскамі Бабінавічы і Касцеева. Вада стала імкліва прыбываць, калі ледзяное покрыва яшчэ не поўнасцю разбурылася. Каб ледзяныя глыбы не пашкодзілі жалезабетонныя канструкцыі пераправы, на выручку прыйшлі спецыялісты і серыяй падрыхтаваных выбухаў па рэчышчы цячэння ракі разбурылі лёд. А вось жыхары іншай вёскі раёна Кучыншчына на некалькі дзён апынуліся адрэзанымі ад цывілізацыі. Яны карысталіся падвясным мастом праз раку, але падчас пад'ёму талай вады ён апынуўся пад вадой. На нейкі час да вяскоўцаў не змаглі пад'ехаць ні аўталаўка, ні работнікі газавай службы. Таксама перастала даўставляцца людзям і паштовая карэспандэнцыя. Калі паводка спала, жыхары гэтага паселішча вярнуліся да ранейшага жыцця. На працягу тыдня адначасова ў рэгіёне на 10-15 см зменшылася таўшчыня лядовага покрыва. Улады Віцебскай вобласці забаранілі выходзіць на вадаёмы, бо на рэках з'явіўся прамоіны і на азёрах стала небяспечна знаходзіцца.

### Пастаўскі раён

## Жыцці абарваліся імгненна

■ Кастусь Александровіч

**У паўсядзённым жыцці людзі часта празмерна аддаюць перавагу розным недарэчнасцям і забываюцца, што чалавечы век зусім кароткі.**

Вось і ў Пастаўскім раёне раптоўна пайшлі з жыцця адразу два вядомыя і паважаныя прафесіяналы. Спачатку на 58-м годзе жыцця скончыўся зямны шлях знакамітага музыканта і самадзейнага кампазітара Яраслава Раманчука. Ён працаваў выкладчыкам мясцовай дзіцячай школы мастацтваў, а потым у цэнтры культуры і народнай творчасці "Стары млын", а найбольш запомніўся ў вобразе Зюзі Паазерскага. Праз пару дзён адышоў у вечнасць заслужаны журналіст Беларусі Пётр Курыловіч, які не дажыў 8 дзён да свайго 65-годдзя. У свой апошні дзень жыцця ён выконваў рэдакцыйнае заданне і асвятляў падзею, рабіў фотаздымкі з першага раённага конкурсу "Аўталедзі-2017". Раптам былому галоўнаму рэдактару раённай газеты "Пастаўскі край" стала дрэнна і калі ён памёр па дарозе ў бальніцу, яшчэ працаваў нявыключаны дыктафон, а ў руках была фотакамера. Працы ў рэдакцыі і на мясцовым радыё гэты вопытны журналіст і таленавіты чалавек аддаў больш 47 гадоў, прыйшоў працаваць сюды пасля школы, вучыўся завочна. Яго ведалі практычна ўсе жыхары краю, а ён ведаў пакаленні сваіх землякоў, пра якіх пісаў і рабіў яркія фотавыставы сваіх работ. Пасля смерці жонкі родная рэдакцыя стала для яго другім домам, а любімая справа – сэнсам жыцця для дачкі і траіх унукаў, ягоных родных. Больш няма гэтых знакамітых землякоў, але памяць пра іх будзе жыць у сэрцах пастаўчан.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 23.03.17 | | | | Пятніца 24.03.17 | | | | Субота 25.03.17 | | | | Нядзеля 26.03.17 | | | | Пн.27.03. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -1 | +1 | +9 | +4 | +2 | +3 | +6 | +1 | -3 | -1 | +4 | 0 | 0 | +2 | +4 | +2 | +2 | +3 | +7 |
| Ціск | 751 | 753 | 754 | 754 | 753 | 752 | 751 | 754 | 755 | 755 | 753 | 751 | 751 | 752 | 751 | 747 | 743 | 744 | 744 |
| Вецер м/сек | 2 Пн-З | 2 З | 3 З | 1 Пд | 2 Пд-У | 3 Пн | 6 Пн | 4 Пн-З | 4 Пн-З | 3 З | 4 З | 2 З | 2 Пн-У | 3 Пн | 3 З | 4 З | 7 З | 6 Пн-З | 8 Пн-З |
| Вільготнасць | 90 | 89 | 49 | 87 | 95 | 98 | 59 | 60 | 86 | 81 | 61 | 94 | 97 | 93 | 65 | 77 | 92 | 90 | 45 |

# Аб самым надзённым

## РАЗВІЦЦЁМ ПАДЗЕЙ У БЕЛАРУСІ ПЕРШЫМ ЗАНЕПАКОІЎСЯ ЕЎРАСАЮЗ, ЗАКЛІКАЎ ВЫЗВАЛІЦЬ ЗВЫШ 70 ЗАТРЫМАНЫХ У ПАЧАТКУ САКАВІКА НА АКЦЫЯХ ПРАТЭСТУ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**З іншага боку, скажам шчыра, добра тое, што кіраўніцтва краіны ў пэўнай ступені прыслухалася да патрабаванняў простага народа. Мясцовыя ўлады павінны пайсці на дыялог з людзьмі, бо ў глыбінцы як раз накапілася найболей розных эканамічных цяжкасцей.**

Сёлетняя ранняя вясна ў нашай краіне застанецца ў гісторыі перыядам даволі бурных унутрыпалітычных падзей, калі працягвалася таксама зацяжное супрацьстаянне з Расіяй у нафтагазавай сферы і з чыноўнікамі Россельгаснагляду. Дачаліся беларусы і незвычайнай з'явы, калі наша дзяржава, дзе ўсё болей суайчыннікаў аказваюцца за рысай беднасці, не стала адмяняць абурыўшы многіх Дэкрэт № 3 "Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства". Праўда, кіраўніцтва Беларусі ў асобе А. Лукашэнкі пасля трох тыдняў актыўных пратэстаў у рэгіёнах вырашыла на працягу 2017 года не спаганяць адпаведны збор.

Вось толькі гэта мера не супакоіла народ, які на сабе адчувае ўсе цяжкасці зацяжнога эканамічнага крызісу. Стала відавочна і другое: нашы суайчыннікі, якія страцілі працу і сутыкнуліся з праблемамі знайсці новы занятак для сябе, каб элементарна накарміць свае сем'і, перастаюць баяцца выходзіць на вуліцы і сталі публічна выказваць сваё незадавальненне. Глава прэзідэнцкай Адміністрацыі Н. Качанава выказала перад гэтым спадзяванне, што тых, хто збіраецца раскачаць сітуацыю ў краіне, зусім няшмат. А вось кіраўнік дзяржавы з металам у голасе даў указанне " как изюм из булки, повыковыривать этих провокаторов".

Хоць у Беларусі пракаціліся пасля гэтага хваля прэвентыўных затрыманняў, па БТ, СТВ, а потым і па АНТ пракруцілі прапагандысцкія фільмы-страшылкі "Звонок другу", акцыі пратэсту супраць непапулярнага Дэкрэта ў рэгіёнах прадоўжыліся і былі даволі масавымі. Стыхійныя мітынгі пратэсту пракаціліся ў Маладзечне, зноў адбыліся ў Брэсце і Бабруйску. Прэзідэнт ужо загадвае адказным чыноўнікам і дэпутатам розных узроўняў ісці на дыялог з насельніцтвам, але яны, напэўна, развучыліся гэта рабіць, бо вуліца іх асвістваe і не слухае. Дзякуючы "нячэсным журналістам" і сучасным сродкам сувязі праз Інтэрнэт уся Беларусь ды і многія ў свеце неўзабаве ўжо ведалі праз анлайнавыя трансляцыі, што адбывалася на такіх падобных акцыях у Оршы, як незадаволена гудзеў Пінск, як нават маленькі Рагачоў абураўся існуючымі жыццёвымі цяжкасцямі.

Стала ўсім відавочна, што ў аснове гэтых даволі масавых народных абурэнняў ляжыць найперш кепскі стан беларускай эканомікі, а таксама фактычны крызіс інтэграцыі з Расіяй і нашага знаходжання ў ЕАЭС. Па самых сціплых падліках, пасля анексіі Крыма, вайны ў Данбасе Беларусь страціла ў гандлі з асноўным партнёрам – Расіяй амаль 12 млрд. долараў экспартнай выручкі. А цяпер з новага года яшчэ болей неабгрунтавана вырасла цана на расійскі газ. Унутры Беларусі эканамічныя цяжкасці працягваюцца і нарастаюць паступова нават з 2011 года, што прыводзіць да масавых звальненняў, падзення рэальнай зарплаты і ВУП краіны і аб'ектыўна да рэальнага недахопу новых рабочых месц. У выніку пачынаючы з 17 лютага ад сталіцы да ўскраін на вуліцы выйшла каля 20 тысяч абураных жыццёвымі цяжкасцямі беларусаў. За месяц па краіне адбылося больш 15 падобных акцый "дармаедаў" у розных гарадах.

Занепакоеныя гэтым улады краіны пайшлі на кропкавыя затрыманні найбольш актыўных удзельнікаў акцый пратэсту, лідараў апазіцыі, пачалі штрафаваць і затрымліваць журналістаў незалежных СМІ. Іх агульная колькасць па краіне перавысіла 70 чалавек, што дала падставу Еўрасаюзу апаратыўна адрэагаваць, успрыняць сітуацыю як спробу прыпыніць дэмакратызацыю і пагоршыць абстаноўку з правамі чалавека. Як і чакалася, са спецыяльнай заявай выступіла Еўрапейская служба знешняга дзеяння ЕС і заклікала беларускія ўлады неадкладна вызваліць усіх затрыманых. Услед за ЕС уплывовая міжнародная арганізацыя "Amnesty International" таксама заклікала вызваліць усіх затрыманых на акцыях пратэсту (яны праходзілі мірна і спакойна) беларусаў.

Зразумела, нашы ўлады стануць спасылацца на ўнутранае заканадаўства па правядзенні масавых мерапрыемстваў і могуць пайсці нават на згортванне добрых адносін з Захадам, калі застанецца напружанай палітычная сітуацыя. На добры толк, гэта бесчалавечна яшчэ і штрафаваць беларусаў, якія апынуліся ў няпростай жыццёвай сітуацыі. Калі палічыць з членамі іх сем'яў, то звыш мільёна суайчыннікаў, а не толькі, як нам гаварылі, некалькі тысяч чалавек супраць падобнага Дэкрэта. Для нашай краіны будзе найгоршы далейшы сілавы сцэнарый, калі замест грамадскага дыялогу ўлады аберуць звыклы шлях рэпрэсій і задушэння справядлівага народнага пратэсту супраць адчувальнага пагаршэння ўзроўню жыцця.

З іншага боку, скажам шчыра, добра тое, што кіраўніцтва краіны ў пэўнай ступені прыслухалася да патрабаванняў простага народа. Мясцовыя ўлады павінны пайсці на дыялог з людзьмі, бо ў глыбінцы як раз накапілася найболей розных эканамічных цяжкасцей. Спецыялісты абяцаюць сёлета ў Беларусі паступовы невялікі эканамічны рост і гэты момант у краіне неабходна выкарыстаць для прадаўжэння структурных рэформ, якія пакрыху ў нас усё ж ідуць.

## Дзень за днём

**Расія прыгразіла забараніць усю беларускую ялавічыну. З-за спрэчак з РФ даходы Беларусі ад экспарту нафтапрадуктаў знізіліся на 40 %. Сярэднямесячны даход 300 долараў на чалавека маюць толькі 13 % беларускіх сем'яў. Тэрмін сертыфікацыі бытавой тэхнікі перанеслі на 1 ліпеня 2018 года. МНС спыніла поўнасцю праверкі малога і сярэдняга бізнесу. Пачаў дзейнічаць Кодэкс законаў Беларусі аб культуры. У беларускіх лясах з-за пагрозы АЧС за 3 гады знішчылі 100 тысяч дзікоў. Збіраць грыбы і ягады для сябе беларусы змогуць бясплатна.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Антырасійскія санкцыі, як пацвердзіла пастаянны прадстаўнік ЗША ў ААН Н. Хайлі, не будуць зняты да вяртання Крыма Украіне, Данбас пакутуе ад дзеянняў РФ.

**Турцыя.** Глава Міністэрства замежных спраў М. Чавушоглу заявіў, што нягледзячы на важнасць адносін з Расіяй, Анкара не прызнае анексіі Крыма і не зменіць сваіх пазіцый па Украіне і Грузіі.

**Ізраіль.** Вядучыя ўрачы-таксілолагі сумесна з калегамі з Францыі пачалі шукаць, чым у РФ атравілі зноў апазіцыйнага палітыка У. Кара-Мурза малодшага, ненавіснага Крамлю.

**Расія.** Палітолаг Д. Арэшкін заявіў, што ўвядзенне пагранічнай зоны з Беларуссю непазбежна прывядзе да развалу Саюзнай дзяржавы, магчымы кантроль і з Казахстанам.

**Украіна.** Надышоў час, як заявіў эксперт Б. Парахонскі, прызнаць на міжнародным узроўні Расію агрэсарам у Данбасе, яе рэзалюцыя ААН ужо лічыць акупантам у Крыме.

**Францыя.** Днём на АЭС Фламанвіль на беразе праліва Ла-Манш адбыўся выбух, пацярпелі некалькі чалавек, але выкіду ў атмасферу радыёактыўных элементаў не было.

**Расія.** Нават пасля вельмі рэзкай крытыкі А. Лукашэнкі ў адрас Крамля, як заявіў палітолаг А. Дубноў, беларуска-расійскія адносіны неўзабаве павінны нармалізавацца.

**Польшча.** Глава МЗС В. Вашчыкоўскі пацвердзіў, што краіна звернецца ў Міжнародны суд у Гаазе са скаргай на Расію, якая не вяртае абломкі прэзідэнцкага самалёта Ту-154М.

**Расія**. У Рассельгаснаглядзе спакойна аднесліся да даручэння А. Лукашэнкі распачаць супраць яго кіраўніка С. Данкверта крымінальную справу за нанясенне шкоды Беларусі.

**Францыя.** Еўрапарламент зацвердзіў увядзенне бязвізавага рэжыму паездак у краіны Шэнгенскай зоны для грамадзян Грузіі з біяметрычнымі пашпартамі.

**Украіна.** У самаабвешчанай "ДНР" прадоўжыўся адстрэл лідараў баевікоў, раніцай у выніку тэракту быў знішчаны камандзір батальёна "Самалі" "палкоўнік" М. Талстых-Гіві.

**Азербайджан**. Экстрадыцыя арыштаванага расійскага блогера А. Лапшына з Мінска ў Баку выклікала вельмі нервовую рэакцыю ў Расіі, Арменіі, асабліва ў Нагорным Карабаху.

**Англія.** Аўтарытэтнае выданне "The Observer" заявіла, што ўзрасла пагроза бяспецы і стабільнасці Еўропы, бо і Мінск стаў непакоіцца з'яўлення "зялёных чалавечкаў".

**Германія.** Эксперт DW I. Прэабражэнскі папярэдзіў, што Крэмль ужо вырашыў "мочить батьку вдолгую", ялавічынай Пуцін не абмяжуецца, будзе татальная гандлёвая вайна.

**Расія.** Без тлумачэння прычын прэзідэнт У. Пуцін звольніў адразу 16 высокапастаўленых генералаў МУС, МНС і Следчага камітэта РФ, такога ператрусу кадраў у Расіі даўно не было.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Жлобін.** Рассельгаснагляд двойчы забракаваў ялавічыну мясцовага, іншых мясакамбінатаў краіны і сабраўся поўнасцю забараніць пастаўкі мясных прадуктаў з Беларусі.

**Салігорск.** З-за зніжэння сусветных цэн на калійныя ўгнаенні даходы "Беларуськалія" ад экспарту летась 5,7 млн. тон калію рухнулі на 23 % і склалі 2,2 млрд. долараў.

**Мазыр.** Мясцовы НПЗ з-за скарачэння паставак з Расіі летась перапрацаваў каля 10 млн. тон нафты, што на 20 % меней 2015 года, але экспарт на Украіну і Польшчу вырас.

**Мінск.** Праўладны палітолаг Ю. Шаўцоў пацвердзіў, што ўсё болей інтарэсы Беларусі і Расіі разыходзяцца, удзельнічаць у імперскіх авантюрах мы не хочам і не будзем.

**Барысаў.** На мясакамбінаце ўзрадаваліся, калі МУС Беларусі пачаў праверку дзейнасці Рассельгаснагляду, страты ад эмбарга на мяса з Міншчыны склалі звыш 5 мільёнаў рублёў.

**Ляхавічы.** Мясцовы малочны завод купіла за 9,4 мільёна долараў на фондавай біржы адна з буйнейшых сусветных малочных кампаній B. S. A. International S. A. з Бельгіі.

**Мінск.** Пасол Расіі ў Беларусі А. Сурыкаў супакоіў беларусаў, што пагранічнага кантролю ў цягніках не будзе, але пашпарты трэба мець з сабой нават пры зборы грыбоў у лясах РФ.

**Дзяржынск.** Днём у выніку пажару на адной з птушкафабрык мясцовага агракамбіната загінулі 700 курэй-нясушак, крыху больш года назад там агонь знішчыў 25 тысяч птушак.

**Гродна.** Пасля выпіўкі метылавага спірту памерлі двое гараджан ва ўзросце 53 і 58 гадоў, іх знаёмая патрапіла ў рэанімацыю, летась так загінулі трое жыхароў Карэліцкага раёна.

**Мінск.** МАЗ распрацаваў аўтобусы для перавозкі гасцей чэмпіянату свету-2018 па футболе, іх пробная партыя пачала праходзіць выпрабаванні на вуліцах Масквы.

**Маладзечна.** Пракуратура распачала крымінальную справу супраць двух настаўнікаў, якія не забяспечылі тэхніку бяспекі на сельгасработах, на якіх загінула 13-гадовая школьніца.

**Мінск.** Вядомы журналіст С. Калінкіна заявіла, што танныя расійскія энерганосьбіты давялі да ўпадку беларускую эканоміку і толькі павялічылі нашу залежнасць ад Расіі.

**Магілёў.** Прадстаўнік ААН па справах бежанцаў Жан Ів Бушардзі сустрэўся з 8 уцекачамі з зоны баявых дзеянняў у Данбасе, за атрыманнем статусу летась звярнуліся 788 чалавек.

**Брэст.** За адну ноч антыцыклон "Эрыка" засыпаў снегам па калена горад і яшчэ 6 раёнаў вобласці, снегапад суправаджаў моцны вецер з парывамі да 15 метраў у секунду.

**Мінск.** Да канца года павінны завяршыць работы па рэканструкцыі стадыёна "Дынама", летам – мантаж сучаснага навеса над трыбунамі на 22 тысячы гледачоў.

## Мінпрацы - пра ўвод страховак ад беспрацоўя: тыя, хто страцілі працу павінны паўгода атрымліваць 60%



■ FINANCE.TUT.BY

**Мінпрацы і сацабароны прапануе ўвесці ў Беларусі страхаванне ад беспрацоўя. Ведамства перадало свае прапановы ва ўрад яшчэ ў пачатку лютага, паведамляе газета «Рэспубліка».**

Мінпрацы і сацабароны рэкамендуе развіваць сістэму страхавання па рынкавай мадэлі, дзе чалавек атрымлівае высокую дапамогу па беспрацоўі. «На працягу паўгода грамадзянін, які апынуўся без працы, зможа разлічваць на выплаты ў памеры 60% ад яго сярэдняга заробку на апошнім працоўным месцы», - удакладніў начальнік упраўлення палітыкі занятасці Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Алег Токун.

Страхаванне ад беспрацоўя прапануюць зрабіць абавязковым. Але атрымліваць дапаможнік змогуць толькі тыя, хто зарэгістраваўся ў службе занятасці.

- Мы пралічылі, што штомесячны ўзнос павінен складаць 0,5% ад фонду аплаты працы. Пры гэтым прапануем плаціць гэтую суму роўна - і наймальніку, і работніку. Гэта значыць работнік замест 1% у ФСЗН павінен будзе плаціць 1,25%. Мне здаецца, што гэта неістотнае павелічэнне, улічваючы тое, што чалавек атрымлівае рэальную абарону ад беспрацоўя. І наймальнікі, думаю, таксама будуць не супраць, паколькі гэта здыме з іх пэўны груз сацыяльнай адказнасці за тых, каго звальняюць.

Алег Токун нагадаў, што ўсяго за 2016 год у краіне створана 71420 новых пра–цоўных месцаў. Пры гэтым план быў 50 тысяч. На 2017 год планку паднялі і чакаюць з'яўлення не менш за 70 тысяч месцаў. На думку чыноўніка, і цяпер вакансій у краіне дастаткова, а самая вялікая праблема - гэта дысбаланс попыту і прапановы.

- Вакансіі ёсць адны, а людзі хочуць іншыя - з больш высокім заробкам, па іншых спецыяльнасцях. Калі глядзець па рэгіёнах, то праца ёсць усюды. Зразумела, не кожны хоча атрымліваць 250-400 рублёў. Але такая ўжо цяпер сітуацыя. Хоць асабіста я гэтага зразумець не магу. І пастаянна кажу беспрацоўным: калі мне патрэбна была праца, я быў згодны любыя грошы зарабляць. Не хочацца быць банальным, але ўсё ж лепш сініца ў руцэ, чым журавель у небе. Напэўна, усё-ткі яшчэ няма такой неабходнасці ісці на любую працу. Таму што адказваюць, напрыклад, так: «Я не для таго вучыўся за свае грошы на юрыста, каб цяпер працаваць механізатарам». Такі падыход таксама мае права на існаванне. Аднак трэба разумець, што рынак працы чула рэагуе менавіта на запыты наймальнікаў, а не суіскальнікаў.

Нагадаем, планы па ўвядзенні страхавання па беспрацоўі прапісаны ў праграме сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на бліжэйшыя пяць гадоў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** Падчас візіту на НПЗ "Нафтан" глава Адміністрацыі прэзідэнта Н. Качанава паведаміла ад адстаўцы гендырэктара У. Трэцьякова за зрыў мадэрнізацыі завода.

**Віцебск.** Амаль 100 жыхароў вобласці вызвалілі ад уплаты збору на фінсаванне дзяржрасходаў у сувязі з цяжкай жыццёвай сітуацыяй, а выявілі 61 тысячу "дармаедаў".

**Дуброўна.** Аўталаўкі мясцовага раённага спажывецкага таварыства перасталі дастаўляць у прыгранічныя расійскія вёскі прадукты харчавання, прывозяць суседзям са Смаленшчыны толькі прамысловыя тавары.

**Орша.** Урад Беларусі зноў дапамог мясцоваму льнокамбінату заплаціць з дзяржаўнага бюджэту працэнты па кітайскім крэдыце на правядзенне 2-га этапа мадэрнізацыі прадпрыемства.

**Лепель.** Аграгарадок Слабада стаў 112 мястэчкам у вобласці, куды падвялі прыродны газ, тут вяскоўцы стварылі 3 кааператывы, паліва падключаць звыш 370 сем'яў.

**Полацк.** Дэлегацыя з горада Цхалтуба (Грузія) падпісала пагадненне аб пабрацімскіх сувязях і шматбаковым супрацоўніцтве з Полацкам, аздараўленні палачан на яго курортах.

**Мёры.** Многія бацькі супакоіліся, што пасля закрыцця старэйшай школы райцэнтра 1959 года пабудовы, у ёй застанууцца вучні 1-4 класаў і прадоўжаць вучобу ў філіяле СШ № 2.

**Шаркаўшчына**. Глыбокай ноччу з-за неасцярожнасці пры курэнні наглытаўся дыму і загінуў 72-гадовы гаспадар кватэры ў 2-павярховым жылым доме ў раённым цэнтры.

**Наваполацк.** Раніцай ля завода БВК вадзіцеля асляпіў свет фар, у ДТЗ загінула 78-гадовая пенсіянерка, якая пераходзіла дарогу без флікера не па пешаходным пераходзе.

**Бешанковічы.** Ля абеліска на месцы масавых расстрэлаў і гібелі больш тысячы вязняў мясцовага гетта прайшоў жалобны мітынг з нагоды 75-годдзя гэтых страшных падзей.

**Браслаў.** З дапамогай службовай сабакі міліцыя знайшла і затрымала 52-гадовага жыхара вёскі Ашкірагі, які ўцёк у лес пасля таго, як з-за рэўнасці параніў нажом сужыцельку.

**Докшыцы**. У Бярэзінскім біясферным запаведніку пачалі праводзіць тыднёвыя конныя туры "Ход канём" з навучаннем турыстаў на чатырох конях верхавой яздзе па лесе.

**Глыбокае.** Вечарам адбыўся пажар у гарадскім пасёлку Падсвілле, дзе полымя знішчыла дах і столь павеці, перад гэтым агонь моцна пашкодзіў жылы дом у вёсцы Залесная.

**Полацк.** Прафесар А. Мальдзіс выказаў здагадку, што першадрукар Ф. Скарына памёр і быў пахаваны ў Чэшскім Крумлаве, яго прах хочуць знайсці і перанесці на Радзіму.

**Паставы.** Ганаровым госцем мясцовых юных плыўцоў стала чэмпіёнка свету і прызёр Алімпіяд у Лондане і Рыа-дэ-Жанейра А. Герасіменя, якая правяла для іх трэніроўку ў басейне ФАКа.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Знайшоў скарб і падзяліўся ім з суседзямі і двума музеямі

■ Уладзімір Скрабатун

Я шчэ пару гадоў таму некаторыя знаёмыя скарбашукальнікі паказвалі свае знаходкі аўтару гэтых радкоў. Таму маю ў сваім архіве "калекцыю" сканаў манетаў не толькі часоў Вялікага княства Літоўскага, але і часоў Свяшчэннай Рымскай імперыі, напрыклад, сестэрцыі, якія, часам, знаходзяць і ў нас на Глыбоччыне.

Цяпер інфармацыяй ніхто не дзеліцца, бо прынятыя адпаведныя заканадаўчыя акты, што калекцыі мусяць быць зарэгістраваныя. А гэта, як кажуць самі калекцыянеры – "вялікі гемарой". Кожную манету паасобку трэба апісаць, унесці ў каталог, прысвоіць інвентарны нумар, зафотаць, заплаціць грошы... То тады кошт выдаткаў на рэгістрацыю калекцыі будзе большы, чым рынкавы кошт самой калекцыі. Ну, Вы, зразумелі...

На маю думку, не самы лепшы варыянт абрала дзяржава. Знаходкі манетаў і іншых старадаўніх артэфактаў, у любым выпадку, будуць працягвацца і надалей. Producing нават выпадковыя і без дапамогі металашукальнікаў, як і ўбачым далей!

Можа лепш было, як некалі прапаноўваў калекцыянер Віктар Майсяёнак, стварыць у Глыбокім музей прыватных калекцый? А так сплывуць усе знаходкі ў Польшчу, ці Расею. Трэба, перадусім, быць патрыётам сваёй краіны і патрыётам свайго роднага горада!

У мінулым годзе, з нагоды 85-годдзя паўстання глыбоцкага Музея Дзісненскай Зямлі[1], мы паведамлялі, што не толькі краязнаўцы і гісторыкі, але і мясцовыя жыхары вельмі актыўна папаўнялі экспазіцыю згаданага музея.

Кастусь Шыталь, адзін з аўтараў шматлікіх публікацый у нашай газеце, зноў натыкнуўся на матэрыял у нашай колішняй "абласной" газеце "Kurjer Wileński" аб чарговай знаходцы 1937 года.

"У месяцы чэрвені бягучага года жыхар вёскі Тушына[2] Пліскай гміны Дзісненскага павету Баляслаў Барткевіч, падчас здабывання на полі камення вапняку, знайшоў некалькі сотняў срэбных манетаў з XVI стагоддзя часоў панавання караля Жыгімонта Аўгуста. Манеты знаходзіліся ў двух гліняных гаршчэчках, якія Барткевіч перадаў музею ў Вільні. Частку знойдзеных манетаў Барткевіч раздаў суседзям, а 415 манет былі ўзятыя на захоўванне ў Музей Дзісненскай Зямлі ў Глыбокім пры мясцовым аддзеле Польскага Краязнаўчага Таварыства".

Нагадаем, нашым чытачам, што ў 1930-я гг Музей Дзісненскай Зямлі размяшчаўся ў будынку колішняга кляштара кармелітаў. Гэта той самы будынак – руіна – які сёння прылягае з правага боку да царквы. У ім, на тым часе, месцілася і староства – кіраўніцтва Дзісненскага павету.

З наяўнасці ў нас шматлікіх газетных вынятак з 1920-30-х гг можна зрабіць высновы, што Музей Дзісненскай Зямлі валодаў досыць багатай экспазіцыяй. Таму ўзнікае заканамернае пытанне – куды знік гэты музей?

Можна меркаваць, што ўсю яго экспазіцыю распіхалі па кішэнях "асвабадзіцелі" пасля 17 верасня 1939 года. Не думаю, што ён змог бы паспяхова дажыць да 22 чэрвеня 1941 года, і бальшавікі зрабілі такі падарунак немцам.

А раптам, усё ж, экспанаты вывезлі і яны сёння пыляцца на паліцах музея нейкага правінцыйнага рускага гарадка? І такая версія таксама мае права на існаванне...



Срэбныя манеты, знойдзеныя ў апошняе дзесяцігоддзе на Глыбоччыне. Манеты большай велічыні – талеры. *Фота Ул. Скрабатуна.*

**Monety srebrne z XVI wieku**

W miesiącu czerwcu rb. m-c wsi Tuszyno, gm. pliskiej, pow. dziśnieńskiego, Bolesław Bortkiewicz, podczas wydobywania na polu kamienia wapniaka, znalazł kilkaset sztuk monet srebrnych z XVI wieku z czasów panowania króla Zygmunta Augusta. Monety znajdowały się w dwóch glinianych garnuszkach, które Bortkiewicz przekazał do muzeum w Wilnie. Cześć znalezionych monet Bortkiewicz rozdał sąsiadom, a 415 monet zostało zdeponowanych w Muzeum Ziemi Dziśnieńskiej w Głębokiem przy miejscowym odziale Polskiego T-wa Krajoznawczego.

Паведамленне газеты "Kurjer Wileński", Nr. 187, за 10.07.1937 аб знаходцы ў Тушыне.



Манета Вялікага Княства Літоўскага за 1547 год. Герб – Пагоня. Надпіс на латыні – "MONETA*MAGNI*DUCAT*LITVA"

Тлумачэнні па тэксце:

1. 85-годдзю музея быў прысвечаны асобны матэрыял у "ВГ" №26 (847) за 30.06.2016 г – "Куды знік глыбоцкі "Музей Дзісненскай Зямлі"?
2. Вёска Тушына была зліквідаваная ў 1960-я гг. Вяскоўцы пераехалі на жыхарства ў вёскі Шэпелева і Мнюта.

# "Загінула смерцю трагічнай"



■ Уладзімір Скрабатун

Амаль на ўваходзе на Копцеўскі цвінтар, збоч сцяжынкі, што ўзнімаецца да Ільінскай капліцы, стаіць дабротны надмагільны помнік, які адразу звяртае на сябе ўвагу. На ім – партрэт прыгожай дзяўчыны. Напісана на помніку па-польску. Аднак, прозвішча – французскае, на што кажа прыдомак да прозвішча – "DE". HALINA ANNA DE TRAMECOURT (Галіна Анна дэ Трамекурт). Трамэкурт досыць вядомае французскае магнацкае прозвішча, ёсць і камуна ("сельсавет") Tramecourt у дэпартаменце Па-дэ-Кале ў французскім рэгіёне Верхняя Францыя.

Чытаем далей: "нарадзілася 17 траўня 1919 года, загінула смерцю трагічнай 27 мая 1937 года. Супакой яе душы".




Скажу праўду, за сваё жыццё праходзячы побач помніка да Ільінскай капліцы, не адзін раз, мо дзесяць, чытаў гэты надпіс на помніку. Былі, натуральна, думкі: хто гэта такая Галіна Анна дэ Трамекурт з французскім прозвішчам, як апынулася ў Глыбокім, што прывяло да трагічнай смерці? Праз пару крокаў далей ужо забывалася... Няма ў каго запытацца, няма дзе пачытаць.

Аказваецца, не толькі аўтара гэтых радкоў цікавіла загадкавая гібель гэтай дзяўчыны. Кастусь Шыталь, наш даўні аўтар, напісаў у Фэйсбуку:

"На могілках Копцеўка ў Глыбокім маю ўвагу прыцягнуў адзін помнік. Надпіс на мармуровай пліце сведчыць, што тут пахаваная Галіна Анна дэ Трамекурт, якая «памерла смерцю трагічнай» 27 мая 1937 года.

На магіле – медальён з фотаздымкам прыгожай дзяўчыны. За дзесяць дзён да смерці ёй споўнілася 18 год… Побач з медальёнам у мармуры прарэзаныя абрысы кветкі…

Мне адразу захацелася даведацца абставіны гібелі гэтай дзяўчыны. Перагартаў старонкі «Kurjera Wileńskiego» за тыя дні, але нічога не знайшоў. Падумаў, што газета абышла ўвагай гэтае здарэнне – і што я ніколі не даведаюся гэтую таямніцу.

Сёння зноў стаў гартаць «Kurjer», каб адшукаць згадкі пра падзеі, якія адбываліся ў нашым рэгіёне 80 год таму. Пасля рэпартажу з гімназіі імя Стэфана Баторыя ў Друі, пасля паведамлення пра вялікі пажар у Мёрах, пасля нататак пра адкрыццё вясляярскага сезону і гонкі на роварах у Вілейцы – у №148 ад 1 чэрвеня 1937 года я натрапіў на паведамленні пра тапельцаў, узятыя, верагодна, з паліцыйнай хронікі.

«27 мая падчас прагулкі байдаркай на Беразвецкім возеры патанула 18-гадовая Галіна Трамекурт, жыхарка Глыбокага. Яна села разам з Генрыкам Зянкевічам і Аляксандрам Плісоўскім з Беразвечча, а таксама Марыяй Купісоўнай з Енджэёва (якая часова знаходзілася ў Глыбокім) у двухмясцовую байдарку, якая перакулілася ў адлегласці 50 м. ад берага. Парэшткі здабытыя».

Гады са тры таму, падчас моцнага ўрагану, шмат цвінтарных дрэваў было паламана, павалена. Помнік Галіне пашкоджаны: адбіты на ім цэментавы крыж і ён моцна нахілены. Скрушна – пройдзе гадоў пяць-сем, усё рассыпецца, застанецца пустка. Час не шкадуе нікога і нічога...

# Глыбокае: Памяць пра габрэйскае мястэчка

**«Глыбокае: Памяць пра габрэйскае мястэчка» – выйшла ў свет кніга пра жыццё габрэяў. Яе выпусціў Цэнтр навуковых работнікаў і выкладчыкаў юдаікі ў ВНУ «Сэфер».**

Кніга больш чым на 300 старонках аб'яднала ў сабе фальклор, этнаграфію, эпіграфіку і архіўныя матэрыялы пра жыццё габрэяў мястэчка Глыбокае ў Заходняй Беларусі.

Па словах аднаго з аўтараў кнігі, навуковай супрацоўніцы Глыбоцкага гісторыка-этнаграфічнага музея Маргарыты Каханеўскай, матэрыялы для кнігі былі сабраныя падчас школы-экспедыцыі Цэнтра «Сэфер» і Цэнтра славяна-юдаікі Інстытута славяназнаўства РАН і ў ходзе архіўных пошукаў.

– Цягам палутара гадоў стваралася кніга з артыкулаў. Таксама рабілі каталог могілак. Ёсць шэраг дакументаў, падрыхтаваных да друку, з Маладэчанскага архіва і з Віцебскага. Ёсць звесткі з Вашынгтонскага архіва Халакосту. Працавалі перш за ўсё навукоўцы з Расейскай акадэміі навук, навукоўцы з Кіева, я – з Глыбокага, і "Сэфер" звязваўся з выхадцамі з Глыбокага, якія таксама дапамагалі архівамі і сваімі ўспамінамі.

Кніга выйшла невялікім накладам. Яна не прадаецца, а замаўляецца ў




цэнтры "Сэфер", таксама яе можна спампаваць у Інтэрнэце. Кніга будзе карысная як для гісторыкаў, этнографаў, фалькларыстаў, так і для шырокага кола чытачоў. Падобнага кшталту кнігі маюць толькі Жалудок Гарадзенскай і Лепель Віцебскай абласцей.

*Радыё Рацыя.*

# У Беларусі зменены парадак залічэнняў транспартнай дзяржпошліны і штрафу за парушэнне ПДР

У Беларусі зменены парадак залічэнняў транспартнай дзяржаўнай пошліны і штрафу за парушэнне правіл дарожнага руху (ПДР), паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе Міністэрства па падатках і зборах. У сувязі з уступленнем у сілу з 28 студзеня 2017 года інструкцыі аб парадку залічэння, размеркавання і механізме вяртання даходаў рэспубліканскага і мясцовага бюджэтаў, бюджэтаў дзяржаўных пазабюджэтных фондаў у 2017 годзе зменены парадак залічэння дзяржаўнай пошліны за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху з арганізацый і фізічных асоб. Выплата ажыццяўляецца ў рэспубліканскі бюджэт за кошт галоўнага ўпраўлення Міністэрства фінансаў па Мінску. У МПЗ таксама агучылі рэквізіты для залічэння дзяржпошліны. Нумар рахунку: 3602911010004.Назва банка: Мінск, ААТ "ААБ Беларусбанк". Код банка: 795. УНП бенефіцыяра: 100061550. Назва падатковага органа, які ажыццяўляе кантроль за выплатай плацяжоў: ІМПЗ РБ па Мінску. Штрафы за парушэнне правіл дарожнага руху, што накладаюцца службовымі асобамі сістэмы Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыі Міністэрства ўнутраных спраў, неабходна выплачваць у рэспубліканскі бюджэт за кошт галоўнага ўпраўлення Міністэрства фінансаў па Цэнтральным раёне Мінска. Рэквізіты для залічэння вышэйназванага штрафу: нумар рахунку 3602911010004. Назва банка: Мінск, ААТ "ААБ Беларусбанк". Код банка: 795. УНП бенефіцыяра: 100064110. Назва падатковага органа, які ажыццяўляе кантроль за выплатай плацяжоў: ІМПЗ РБ па Цэнтральным раёне Мінска.

*БелТА*




**Дом пад надзейнай аховай! Не сумнявайцеся!**
*Фота Ул. Скрабатуна.*

# Шатландзец у "спадніцы" ўсё ж набыў квіток да Глыбокага!

■ **Уладзімір Скрабатун**

Як мы ўжо паведамлялі ["ВГ" №11 (884)], 6-7 траўня 2017 года ў Глыбокім плануецца правядзенне першага ў Беларусі Міжнароднага рэгіянальнага дударскага фэсту. Аўтар ідэі фэсту, пры падтрымцы Глыбоцкага райвыканкама, Віталь Воранаў, жыхар Познані (Польшча), колішні вучань Глыбоцкай СШ №2, выкладчык ірландскай літаратуры ва ўніверсітэце г. Брно (Чэхія).

Сёння Віталь Воранаў паведаміў нам, што назва фэсту будзе – "Дударскі рэй".

Шатландзец, які збіраўся на Беларусь, а менавіта ў Глыбокае, ужо набыў квіток.

Сачыце за далейшымі публікацыямі нашай газеты на гэтую тэму.



# Святлана Алексіевіч узначаліла раду стыпендыі імя Магдалены Радзівіл

**20 сакавіка «Саюз беларускіх пісьменнікаў» абвясціў пра заснаванне стыпендыі імя Магдалены Радзівіл для пісьменніц і перакладчыц і назваў імёны стыпендыятак.**

Стыпендыя прызначаная на творчую працу і будзе ўручацца раз на год. Узрост аўтарак, намінаваных на яе, не абмяжоўваецца.

Спіс кандыдатак і імёны пераможцаў абіраюцца Радай стыпендыі, у склад якой уваходзяць: Святлана Алексіевіч (старшыня Рады), Уладзімір Арлоў, Алена Макоўская, Барыс Пятровіч (Сачанка), Юлія Чарняўская.

Сёлетнімі стыпендыяткамі сталі: Таццяна Барысік (Магілёў), Алена Брава (Барысаў), Дар'я Ліс (Смаргонь).

Магдалена Радзівіл была адной з найшчадрэйшых фундатарак беларускай культуры і прэсы ў першай палове ХХ ст. За сваё спрыянне беларушчыне яна ўвайшла ў канфлікт з некаторымі сваімі сваякамі, перакананымі палякамі.

*nn.by*

# Беспрацоўным будуць прапаноўваць аплатныя грамадскія работы як форму часовай фінансавай падтрымкі

**Аб гэтым у эфіры тэлеканала АНТ паведаміла міністр працы і сацыяльнай абароны Ірына Касцевіч, перадае БелТА.**

Адказваючы на пытанне аб тым, як будзе рэалізавана задача па працаўладкаванні да 1 мая беспрацоўных, міністр адзначыла, што неабходна разглядаць дзве катэгорыі беспрацоўных: беспрацоўныя, якім трэба прадаставіць пастаянную работу, і беспрацоўныя, для якіх сёння няма вакансій на рынку працы па іх кваліфікацыі. "Тут у якасці часовай фінансавай падтрымкі беспрацоўнага можна прыцягваць да аплатных грамадскіх работ, - заявіла Ірына Касцевіч. - Службы занятасці і райвыканкамы павінны вызначыць такія базавыя кропкі, дзе будзе размешчана інфармацыя: якая гэта работа, якія грошы чалавек атрымае за гэту работу". На думку міністра, беспрацоўныя павінны атрымліваць адкрытую і празрыстую інфармацыю, каб разумець, дзе сёння можна зарабіць грошы.

*БелТА.*

# Крута! Толькі і пастаяў ля берага – а атрымаў штраф у 690 рублёў!

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Вясна актыўна пачала ўступаць у свае правы, рэкі выкрываюцца ад лёду, на азёрах лёд стаў зусім тонкі, рыба пачала адкладаць ікру, каб даць нашчадкаў, а затым цешыць сапраўдных рыбакоў добрым уловам.**

Але, як той казаў, з прылётам першых вясновых птушак, "прылятаюць" і першыя браканьеры, якім не страшныя ні інспектары, ні штрафы, ні нават магчымасць апынуцца на лаве падсудных.

З пачаткам нерасту рыбы супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі перайшлі на працу па ўзмоцненым варыянце, без выходных, днём і ўночы працуюць рэйдавыя групы. Шматлікія лічаць, што вылаўленыя ў перыяд забароны адзін ці два шчупакі вялікай шкоды прыродзе не наробяць, і такіх людзей шмат. Дзясяткі рыбаловаў гуляюць з агнём, выстаўляючы разнастайныя прылады рыбалоўства, сцяжкі, жарліцы і г.д., для злову менавіта шчупака, а калі інспектары іх затрымоўваюць, то ўсе дружна кажуць: я лаўлю не шчупака, а акуня. Але, шаноўныя рыбаловы, часта ў якасці прынады на жарліцах знаходзіцца жывец вагой 100-150 грам, плотка ці акунь, – пытанне – які акунь павінен быць памерам, каб праглынуць такога жыўца? Як правіла, такія гора-рыбаловы хаваюцца ад вачэй людскіх на лясных вадаёмах, старанна маскіруючы жарліцы, але гэта далёка не заўсёды ім дапамагае,



Камусьці можа здацца, што парушэнне несур'ёзнае, а пакаранне жорсткае, але калі кожны рыбалоў пачне парушаць, што застанецца нашым дзецям, унукам і што стане з прыродай? Сваёй абыякавасцю да таго, што адбываецца, да браканьерства, да чалавека з восцямі ці сеткай мы забіваем прыроду.

Так, 13 сакавіка бягучага года пры правядзенні палявых кантрольных мерапрыемстваў на возеры Ксяндзы Пастаўскага раёна інспектарамі затрыманы мясцовы жыхар, які пры дапамозе восцяў спрабаваў здабыць шчупака, які выйшаў на затопленую паводкай сенажаць, але яго дзеянні хутка спыніліся. Нягледзячы на тое, што рыбы парушальнік здабыць не паспеў, сам факт знаходжання з забароненай прыладай рыбалоўства ў рыбалоўных угоддзях цягне адміністрацыйную адказнасць да 30 базавых велічынь ці 690 рублёў. Ужо на наступны дзень, 14 сакавіка, на гэтым жа вадаёме інспектары затрымалі яшчэ аднаго аматара рыбкі з восцямі, жыхара г. Паставы. Зноў быў складзены адміністрацыйны пратакол, на падставе якога парушальніка чакае раённы суд і штраф.

Заклікаць браканьераў апамятацца, я не буду, але меры з боку супрацоўнікаў інспекцыі будуць адэкватныя, самыя жорсткія меры пакарання, аж – да крымінальнай адказнасці.

Усіх, каму неабыякава ахова нашых прыродных багаццяў, просім паведамляць пра факты браканьерства ў Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету (ананімнасць гарантуем) на тэлефоны – **кругласутачна**: 8-02156 - 5-59-80, мабільныя: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78(МТС), усе паведамленні будуць праверханы, а да парушальнікаў прынятыя самыя цвёрдыя меры адказнасці.

Нашы дзеці – наша змена

# Ад асінкі не нараджаюцца апельсінкі!



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

Чалавек нараджаецца, як чысты ліст. На працягу жыццёвага шляху ў яго пад уздзеяннем таго асяроддзя, у якім ён расце і развіваецца, фарміруюцца залежнасці ад сацыяльнага асяроддзя, у якім ён жыве. Сёння афіцыйна, як сцвярджае магістр псіхалагічных навук, старшыня асветніцкага грамадскага аб'яднання "Цвярозая сіла" Аляксандр Цімануюк, зарэгістравана 220 відаў залежнасці. Самыя вядомыя і распаўсюджаныя – алкагалізм, наркаманія, гульнямания, шопагалізм, абжорства, курэнне, працагалізм, перфекцыяналізм, камп'ютарная залежнасць і г.д. Ад залежнасці пакутуюць 98% жыхароў зямнога шара. І самае страшнае, што залежнасць, як вораг, не заўсёды відавочна. Кожнае з нездаровых залежнасцяў прыносіць шмат праблем і самому залежнаму, і яго блізкім.

Любыя маніі і залежнасці нараджаюцца ў сям'і. Кажуць, ад асінкі не нараджаюцца апельсінкі. Наркаманія, гульнямания і алкагалізм фарміруюцца ва ўзросце ад 2 да 7 год. Псіхалагічна любая залежнасць фарміруецца да 10 год. Не ўсім бацькам хочацца гэта ўсведамляць, але на самой справе гэта так. Ёсць такая прымаўка: "Дзед п'е ўмерана, сын – упэўнена, а ўнук – алкаголік". Гэта тычыцца кожнага віду залежнасцяў. Гэта тое, што сумiруецца і назапашваецца, пераходзіць з пакалення ў пакаленне. Першапачаткова паражэнне адбываецца на духоўным узроўні, потым – на псіхалагічным, пасля гэтага ўсё пераходзіць у біялогію і, потым, у соцыум.

Самы эфектыўны сродак фарміравання станоўчых залежнасцяў пачынаць з 2-гадовага ўзросту, калі фарміраванне адбываецца на духоўным узроўні. Самы эфектыўны сродак – добрыя казкі. Сцвярджаю гэта па той прычыне, што сам прайшоў гэты шлях у свеце казак. Мой бацька быў неадукаваны, але ведаў шмат казак і ўмеў іх эмацыянальна данесці да слухача, улічваючы мой ўзрост. Калі я стаў бацькам і педагогам, то і сам шырока выкарыстоўваў гэты метад, і паспяхова.

Калі заняўся вырабамі малой архітэктурнай скульптуры, мая дачка Алена, якая скончыла худграф Віцебскага педуніверсітэта, з'яўляецца прафесійным дызайнерам, параіла мне для дзіцячых садоў выбляць кампазіцыі казак. Справа пайшла на "Ура!" Кампазіцыя "Лісіца і варона", "Сястрыца Алёнушка і брацец Іванушка", "Залатая рыбка", "Дзедка і рэпка", "Папялушка", "Сіўка-бурка" і шмат іншых мелі поспех. Я шмат кампазіцый падарыў Дзісненскаму дзіцячаму саду, бо яго наведваў мой унук Мацвей, Туркоўскаму і Папшулеўскаму садкам, там працавалі мае родныя і сябры.

Улічваючы тыя абставіны, што фінансавае становішча гэтых устаноў ахаўскае, а абсталяванне прымітыўнае, а ў школах на ўроках працы матэрыял пераводзяць у стружку, я прапанаваў аддзелу адукацыі свае паслугі ў якасці кансультанта па грамадскіх пачатках па выпуску казачных кампазіцый для садзікаў. Ад мяне адбіліся як ад назойлівай мухі. Але ідэя жывая, і я не трачу надзеі на тое, што магчыма ў мікраарёне, у якім выходзіць "Вольнае Глыбокае", знойдуцца паслядоўнікі маёй ідэі і прынясуць дзецям шмат радасных хвілін.



У райскі сад Фадзея Шымуковіча прыйшлі на экскурсію дзеці.

А тое, што для дзяцей гэта радасць, чытач можа ўпэўніцца на здымку па тых дзіцячых тварах, якія занатаваныя на фота ў час экскурсіі ў маім двары сярод экспазіцый казак.



Унук Фадзея Шымуковіча – Матвей.

### Методыка вырабу кветак

Інструменты: электралобзік, нажоўка, тапорык, малаток, лінейка, транспарцір, дрэль, свярло d-5мм, пілачка да электралобзіка, шліфшкурка.

**Матэрыялы:** дошкі таўшчынёй 1,8-2,0см, 1,5см, 0,8см любой пароды; цвікі 20-25мм, 30-35мм, фарбы, пэндзлі.

**Падрыхтоўчыя работы:** лепш падрыхтаваць лекала са шчыльнага кардону (пялёстак). З дошкі 0,8см выразаць неабходную колькасць пялёсткаў: 6+1, або 4+1, апрацаваць шліфшкуркай і падагнаць вугал у $60^0$ або $90^0$. З дошкі 1,8-2,0см выразаць круг дыяметрам 9-10см, па цэнтру адтуліна 6мм. Гэта аснова. З дошкі 1,5см выразаць круг дыяметрам роўны дыяметру асновы. Гэта накрыўка.





**Зборка:** у аснове прачарціць алоўкам дыяметр. У пялёсткаў абрэзаць вугалкі пад адтуліны, каб не закрывалі адтуліну асновы. Цвікамі на 20-25мм на 2 цвікі прыбіць да асновы пялёстак №1, затым №2, а ўжо потым астатнія. Прыбіць накрыўку так, каб адтуліна ў аснове супадала з адтулінай накрыўкі. Кветка гатовая.





■ **А.Н. Ішуцін,** *інспектар Глыбоцкага МРА "Энерганагляду".*

# Працаваць на сельскагаспадарчай тэхніцы пад паветранымі лініямі электраперадач небяспечна!

**Ахоўная зона ўсталёўваецца ўздоўж паветраных ліній электраперадачы(ВЛ)увыглядзе зямельнага ўчастку і паветранай прасторы і абмяжоўваецца вертыкальнымі плоскасцямі, якія адстаяць па абодва бакі лініі ад крайніх правадоў пры не адхіленым іх становішчы на адлегласці 2 метры для ВЛ напругай да 1 кВ і ВЛС, 10 м – для ВЛ 6-10 кВ, 15 м – для ВЛ 35 кВ, 20м. – для ВЛ 110 кв, 25 м – для ВЛ 220кВ, 30м – для ВЛ 33ОкВ, 40 м – для ВЛ 750 кВ.**

Памятайце! Пры рабоце машын пад ВЛ асабліва небяспечным з'яўляецца набліжэнне машыны на недапушчальную адлегласць да провада, непасрэдны судотык з провадам ВЛ, абрыў провада ці яго падзенне на машыну.

Энерганагляд нагадвае, што ў ахоўных зонах ліній электраперадачы забараняецца:

● набліжацца да правадоў, якія ляжаць на зямлі, да апор, што маюць абарваныя правады ці дугавое замыканне, на адлегласць меней за 20м, а таксама працаваць у такіх зонах;

● выконваць сельскагаспадарчыя работы ручной прыладай на адлегласці меней за 3 м ад апор ВЛ;

● датыкацца да апор ВЛ, залазіць на іх, прыбудоўваць да апор металічныя платы, якія-небудзь прадметы, а таксама прывязваць хатніх жывёл;

● ажыццяўляць пагрузна-разгрузныя работы;

● ставіць сцірты саломы, стагі сена, размяшчаць палявыя станы, разводзіць агонь;

● выконваць рамонтна-прафілактычныя работы на сельскагаспадарчых і іншых машынах;

● працаваць пры набліжэнні і падчас навальніцы;

● працаваць на высока габарытных машынах вышынёй больш 4,5 метраў;

● запраўляць машыны гаручым палівам.

Машыны і механізмы павінны быць тэхнічна спраўныя, запраўлены гаручазмазачным матэрыялам, укамплектаваны супрацьпажарным інвентаром і неабходнымі сродкамі па электрабяспецы.

Энерганагляд папярэджвае, што ў адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях па артыкуле 20.3 " Парушэнне правіл аховы электрычных сетак" цягне накладанне штрафу ў памеры да 50 базавых велічынь, а на юрыдычную асобу да 500 базавых велічынь.

## МНС інфармуе

**на 21.03.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 181;
Гібель людзей – 32, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 11;
Гібель людзей – 0, з іх дзяцей няма

***

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

# Каго могуць вызваліць ад выплаты падатку на дармаедства — Мінпрацы разаслала папраўкі ў дэкрэт



■ FINANCE.TUT.BY / БЕЛТА

Мінпрацы разаслала на ўзгадненне ў аблвыканкамы, Мінгарвыканкам і іншыя дзяржорганы праект змяненняў у дэкрэт аб дармаедстве. Ліст за подпісам Ірыны Касцевіч накіравалі з паметкай «вельмі тэрмінова!».

**Жонак (мужоў) вайскоўцаў і маладых спецыялістаў могуць вызваліць ад падатку**

Да дармаедаў прапануюць не адносіць жанчын, якія нарадзілі або знаходзіліся пад медыцынскім наглядам падчас цяжарнасці і родаў, а таксама тых, хто ўсынавіў дзіця да трох гадоў. Не трапяць пад дэкрэт вайскоўцы, супрацоўнікі ваенізаваных арганізацый, якія маюць спецыяльныя званні і праходзілі альтэрнатыўную службу.

Паводле праекта змяненняў, дармаедамі не будуць лічыцца і тыя, хто знаходзіўся на псіханеўралагічным дыспансерным уліку, а таксама студэнты дзённай формы навучання ў год паступлення і заканчэння навучальнай установы. Але не змогуць пазбегнуць выплаты збору тыя, хто праходзіў навучальныя курсы (лекторыі, тэматычныя семінары, практыкумы, трэнінгі, афіцэрскія курсы) і праграмы ўдасканалення магчымасцяў і здольнасцяў асобы.

**Ад выплаты збору прапануюць таксама вызваліць «жонак (мужоў) вайскоўцаў,** якія праходзяць вайсковую службу па кантракце, а таксама жонак (мужоў) маладых спецыялістаў, што прыступілі да працы па размеркаванні або па накіраванні на працу на час іх сумеснага пражывання ў мясцовасці, дзе адсутнічае магчымасць іх працаўладкавання».

**Ад падатку змогуць сысці і тыя, хто валодае зямельным участкам незалежна ад яго мэтавага прызначэння і месцазнаходжання.**

Выключэнне зробяць толькі для жыхароў абласных цэнтраў і Мінска.

Цяпер ад падатку вызваляюцца толькі жыхары вёсак і гарадскіх пасёлкаў, якія валодаюць зямельнымі ўчасткамі для вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі.

**«Ад выплаты збору за адпаведны падатковы перыяд вызваляюцца грамадзяне, якія вырошчвалі (выраблялі) прадукцыю раслінаводства** (за выключэннем прадукцыі кветкаводства, дэкаратыўных раслін, іх насення і расады), выраблялі прадукцыю жывёлагадоўлі на размешчаным на тэрыторыі Беларусі (за выключэннем гарадоў: Брэст, Віцебск, Гомель, Гродна, Мінск, Магілёў) зямельным участку, прадастаўленым яму (членам яго сям'і) для будаўніцтва і (або) абслугоўвання жылога дома, абслугоўвання зарэгістраванай арганізацыяй па дзяржаўнай рэгістрацыі нерухомай маёмасці, правоў на яе і здзелак з ёй кватэры ў блакіраваным жылым доме, вядзення асабістай дапаможнай гаспадаркі, агароднітцва, традыцыйных народных промыслаў (рамёстваў), касьбы і выпасу сельскагаспадарчых жывёл, вядзення сялянскай (фермерскай) гаспадаркі, у выглядзе службовага надзела», – гаворыцца ў праекце змяненняў у дэкрэт.

**Ад альтэрнатыўнай службы да догляду інваліда**

Не лічыць дармаедамі таксама прапануюць тых беларусаў, якія не ўдзельнічалі ў фінансаванні дзяржрасходаў у каляндарным годзе, але ў наступным годзе, калі трэба выплачваць збор, атрымалі інваліднасць (незалежна ад групы, прычыны, даты і тэрміну інваліднасці ў гэтым годзе), былі прызнаныя недзеяздольнымі, праходзілі ваенную службу па прызыве, альтэрнатыўную службу, былі прынятыя на псіханеўралагічны дыспансерны ўлік, выйшлі на пенсію, нарадзілі дзіця альбо глядзелі дзіця-інваліда да 18 гадоў, інваліда ў першай групы або пенсіянераў, старэйшых за 80 гадоў.

**Выплата падатку ў растэрміноўку**

Мясцовыя саветы дэпутатаў або па іх даручэнні мясцовыя выканкамы па-ранейшаму змогуць вызваляць ад выплаты збору тых, хто апынуўся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі.

«Устаноўлены заканадаўствам тэрмін выплаты збору, пеняў можа быць зменены ў форме адтэрміноўкі з аднаразовай выплатай сум, растэрміноўкі з паэтапнай выплатай сумы, адтэрміноўкі па выплаце запазычанасці па зборы, пенях з наступнай растэрміноўкай яе пагашэння», - гаворыцца ў праекце змяненняў.

**Вярнуць выплачаны падатак за 2015 год можна будзе толькі пасля 1 лістапада**

«Ад выплаты збору за 2015 год вызваляюцца грамадзяне, якія прызнаюцца плацельшчыкамі збору за гэты год», – адзначаецца ў праекце зменаў. Пры гэтым за 2016 год прапануюць вызваляць тых, каго прызналі плацельшчыкамі збору за гэты год, але якія выплацілі падатак за 2015 год.

«Грамадзяне, выплацілі збор за 2015 год, маюць права на вяртанне сум заплачанага збору (па іх заяве) пры ўмове, калі яны не прызнаюцца плацельшчыкамі збору за 2016 год. Такое вяртанне ажыццяўляецца падатковымі органамі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам, пасля 1 лістапада 2017 года.

**Падатак пойдзе на падтрымку дзяцей**

Сабраны падатак накіруюць «на фінансаванне мерапрыемстваў, звязаных з падтрымкай (сацыяльнай абаронай) дзяцей».

Складаць спісы тых, хто не ўдзельнічаў у фінансаванні дзяржвыдаткаў ці браў удзел часткова, будзе фармаваць МПЗ і перадаваць дадзеныя ў аблвыканкамы і Мінгарвыканкам.

# Кіраўнік Мінпрацы: Частка беспрацоўных зможа прэтэндаваць на аплатныя грамадскія работы

■ news.tut.by

**Заданне прэзідэнта аб працаўладкаванні да 1 мая ўсіх беспрацоўных будзе выканана, пры гэтым частка беспрацоўных да 1 мая зможа прэтэндаваць толькі на аплатныя грамадскія работы. Пра гэта заявіла міністр працы і сацыяльнай абароны Ірына Касцевіч ў эфіры праграмы «Контуры» на тэлеканале АНТ.**

«Да 1 мая ёсць задача забяспечыць усіх беспрацоўных працай. Гэта тыя, каму трэба пастаянную працу, і тыя, для каго няма працы на рынку па іх кваліфікацыі. Для іх патрэбны аплатныя грамадскія работы як часовая мера падтрымкі. Мясцовыя ўлады гэтым зоймуцца», — адзначыла Касцевіч.

Нядаўна прызначаная міністр адзначыла, што сістэма сацабароны ў краіне выбудаваная — ёсць дзяржаўная адрасная сацыяльная дапамога, пяць відаў сацпадтрымкі.

«Сістэма будзе ўдасканальвацца», – запэўніла яна.

Міністра таксама спыталі аб выкананні прэзідэнцкага задання па росце сярэдняга заробку. Касцевіч падкрэсліла, што тут важная «сцэпка росту зарплаты з ростам прадукцыйнасці працы».

«Не па кожным прадпрыемстве зарплата да канца года можа вырасці да 1000 рублёў. У бліжэйшы час мы плануем выехаць на месца, каб зладзіць мазгавы штурм па гэтым пытанні», – распавяла яна.

## Усміхніцеся

В финскую деревню приехал новый священник и решил познакомиться с прихожанами лично, посетив дома каждого.

И вот он стучит в дверь крестьянина Юсси. Из-за двери доносится голос жены Юсси:

— Это ты, мой ангел?

Священник немного растерялся, но ответил:

— Нет, но я из той же фирмы…

***

Пятая пересдача.

Препод:

- Та-ак. Это Вы не рассказали, того не знаете, там ошиблись. Что же с Вами делать?

Студент:

- Пожалеть.

Препод:

- Бе-едненький, опять не сдал…

***

У одного чукчи сломался будильник. Приходит он в часовую мастерскую, где приемщик тоже чукча. Открыл он будильник и видит, что в механизме застрял дохлый таракан.- Не будет работать, - уверенно констатирует он.- Почему? - удивляется владелец часов.- Механик сдох! - разводит руками приемщик.

***

Начальник едет в командировку со своей секретаршей в одном купе. Она верхней койке, он на нижней. Ночью она свешивается со своей койки и будит его:

- Я очень замерзла, не могли бы Вы достать мне одеяло?

- А давайте на эту ночь притворимся, что мы женаты?

- Ой, конечно давайте!

- Тогда лезь сама за этим одеялом!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Столица Таиланда | Нелюдим | Роман Эмиля Золя | Оперетта Имре Кальмана | | | | | | |
| | | | | | Морской ерш | | Музыкальный темп | | Емкость для воды |
| | Мужское имя | | Забор | | | | | | |
| | | | | | Бурая пленка на болоте | | Трезубец | | Судный ... |
| | Торжественный выезд | | Электрический ... | | | | | | |
| | | | | | | Ущерб, порча | | Восток | |
| | Змея | | Монета у древних греков | | | | | | |
| | | | | | Большая кошка | | | | |
| Лосось-таймень | | Бытовой ... | | Малайский нож | Сильный клев рыбы | | Невиновность | | Контур |
| Буква кириллицы | | Бедность | | | | | | Время суток | |
| | | | | | | Флоэма | | | |
| | Птица отряда ракшеобразных | | Новогоднее представление | | | | | | |
| | | | | | Посредник | Сорт сыра | | | |
| | Начальник факультета | | Бог Солнца | | | | | | |

**Ответы на сканворд № 11**

**По горизонтали:** Насест. Езда. Стрекот. Енот. Подкоп. Шабли. Русь. Ржа. Утро. Чита. Гнус. Парча. Нары. **По вертикали:** Черемша. Наст. Сорго. Сикоку. Степь. «Орбит». Пирога. Драчун. Осот. Ура. Иса. Азы.

## ГАРАСКОП НА НОВЫ ТЫДЗЕНЬ



**АВЕН.** Тыдзень спрыяльны для навуковых даследаванняў і адкрыццяў. Вам неабходна праявіць ініцыятыву і прымяніць свае ідэі на практыцы. Эксперыменты дазволяць даказаць вашу правату. Не адкладайце рашэнне праблем у доўгую скрыню. З другой паловы тыдня могуць узнікнуць складанасці ў адносінах з раднёй або сябрамі.



**ЦЯЛЕЦ.** На гэтым тыдні ў вас з'явіцца жаданне нешта змяніць у сваім жыцці. У дадатак да жадання, таксама ў наяўнасці будзе і магчымасць. Так што лавіце шанец. Тыдзень спрыяльны для пашырэння сферы дзейнасці, кар'ернага росту, новых рамантычных знаёмстваў. У сярэдзіне тыдня – магчымыя розныя няўвязкі і несастыкоўка. Канец тыдня – час, калі неабходна будзе аб'ектыўна ацаніць свае сілы і не ўзвальваць на сябе лішні груз. У выхадныя паспрабуйце адпачыць так, як вам таго хочацца, а не толькі вырашаць хатнія праблемы.



**БЛІЗНЯТЫ.** Уплываць на гэтым тыдні на ход падзей вам наўрад ці ўдасца, а вось выкарыстоўваць іх з выгадай для сябе вы зможаце. Інфармацыя, атрыманая ў пачатку тыдня, можа вас парадаваць, магчымая гаворка пра ваша павышэнне па службе або прыбаўленне зарплаты. Удалыя і выгадныя могуць быць працяглыя камандзіроўкі, якія пачынаюцца ў першай палове тыдня. У другой палове тыдня пастарайцеся ўстрымацца ад крыўд.У выхадныя вы зможаце дамагчыся вельмі амбіцыйнай мэты.



**РАК.** На гэтым тыдні паспрабуйце быць больш памяркоўнымі да навакольных. Ва ўсіх ёсць недахопы, вы таксама не без граху, і спроба навучыць каго-небудзь жыць абернецца для вас не дужа прыемнай сітуацыяй. У першыя дні тыдня варта з усіх сіл стрымліваць эмоцыі, гэта дазволіць з бляскам справіцца з сітуацыяй. У другой палове тыдня ваш прыбытак павялічыцца. У выхадныя дні больш кантактуйце з роднымі.



**ЛЕЎ.** На гэтым тыдні вам прыйдзецца даказваць свой узровень прафесіяналізму. Будзьце разняволеныя, гэта добры тыдзень для людзей творчых прафесій. Спатрэбіцца добразычлівасць і кактактнасць. Больш уважліва сачыце за навінамі, каб не прапусціць важнай для вас інфармацыі. Размоў з начальствам у сярэдзіне тыдня лепш не весці, свае ідэі і прэтэнзіі можна будзе выказаць потым. У выхадныя дні пазбягайце пустых слоў і лішніх кантактаў.



**ПАННА.** З'ехаўшы ў камандзіроўку ў пачатку тыдня, вы, магчыма, пазбегнеце непрыемнасцяў на працы. Калі ўсё ж такі вы застанецеся ў офісе, вам спатрэбіцца праявіць зайздроснае цярпенне, інакш вашыя дзелавыя партнёры могуць скарыстацца вашай эмацыянальнасцю і справакаваць канфліктную сітуацыю. У сярэдзіне тыдня могуць аднавіцца важныя для вас, але згубленыя кантакты і сувязі. Выпадковыя сустрэчы адкрыюць для вас новыя перспектывы. Дзеці і бацькі будуць радаваць вас, а не засмучаць.



**ВАГІ.** На гэтым тыдні не варта адкрыта выказваць свае прэтэнзіі навакольным. Ваш поспех залежыць, у першую чаргу, ад вашай дыпламатычнасці. Грандыёзныя планы на бліжэйшыя дні лепш не будаваць, яны могуць не спраўдзіцца, але праявіць актыўнасць не толькі не шкодна, але і вельмі пажадана. Блізкія людзі могуць звярнуцца да вас па параду, праявіце разуменне. Паспрабуйце быць прадбачлівымі, ёсць небяспека паўтарыць ужо аднойчы зробленыя памылкі.



**СКАРПІЁН.** Лёс прадаставіць вам магчымасць выбару, у прафесійным і асабістым плане шмат хто будзе дамагацца вашай увагі. Працаздольнасць, пачуццё такту і чароўнасць дазволяць вам віртуозна справіцца з пастаўленымі задачамі. Вас чакае фінансавы поспех. Часцей бывайце вечарамі ў кампаніі. У выхадныя паспрабуйце аднавіць выдаткаваны энергетычны патэнцыял.



**СТРАЛЕЦ.** У вас велізарная колькасць цікавых ідэй і новых планаў, але ўвесь пар можа сысці ў свісток. Трэба шмат працаваць, каб рэалізаваць жаданае. Падумайце аб новай крыніцы даходу. Ёсць верагоднасць, што вам давядзецца заняцца жыллёвым пытаннем. Не забывайце пра сваіх блізкіх, парадуйце іх якім-небудзь неабходным набыццём. Некаторы час варта прысвяціць наладжванню дзелавых сувязяў.



**КАЗЯРОГ.** Наступіў добры час, падумайце аб планах і праектах на будучыню. На працы ўсё добра, нават верагодна павышэнне па службе. У пачатку тыдня не прапусціце важную інфармацыю, якая адкрые перад вамі новыя магчымасці. Сярэдзіна тыдня парадуе ўдалымі сустрэчамі і сяброўскімі гутаркамі. Не варта шкадаваць грошай, калі ёсць шанец парадаваць блізкіх людзей.



**ВАДАЛЕЙ.** Самы час сур'ёзна паставіцца да сваёй кар'еры. Тыдзень можа быць дастаткова неспакойны, поўны не заўсёды прыемных нечаканасцяў. Эмацыйная ўстойлівасць можа панізіцца, а з раздражняльнасцю вам будзе справіцца нялёгка. Паспрабуйце не паказваць навакольным сваю нецярпімасць. Асцерагайцеся ўвязвацца ў авантурныя і канфліктныя гісторыі. Не варта прымаць чый-небудзь бок, проста рабіце сваю справу.



**РЫБЫ.** Будуць прыкметныя змены ў адносінах з дзелавымі партнёрамі. Гэта сур'ёзнае выпрабаванне на трываласць, ад вас спатрэбіцца гатоўнасць да супрацоўніцтва і юрыдычная пісьменнасць. На працы магчымыя інтрыгі. Хтосьці відавочна жадае зваліць на вас свае праблемы. У другой палове тыдня будзьце асцярожныя з павабнай прапановай, што тычацца асабістага жыцця. У канцы тыдня не варта нічога планаваць, так як усё можа змяніцца ў адно імгненне.

«Вольнае Глыбокае»
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае унітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.
Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 21. 03 .2017 г. у 20[00]
Наклад 1400 паасобнікаў

Рэдактар: Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
Тэлефон/факс: (02156) 5-52-94;
E:mail: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, п/с №3
Замова 152

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў. Спасылкі на «Вольнае Глыбокае» абавязковыя.
Газета набраная і звярстаная на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае».
Надрукаваная ў друкарні ТДА «Знамение», г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Ліц. ЛП №02330/85 ад 23.01.2014
Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, пак. 1, г. Глыбокае